# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — БЕЛАСТОК — ВІЛЬНЯ ЗАСНАВАНА Ў 1920 Г.

№ 7 (21) 2 красавіка 1993 г. Кошт 5 рублёў


*Фотарэпартаж*

## Жыве Беларусь!

Прыгадваюцца старыя пажоўклыя фотаздымкі міжваеннага часу. Сьвяточны сход дзесьці ў Віленскай Беларускай гімназіі. На сцэне прэзідыум, над галовамі — аздобленая Бел-чырвона-белымі сьцягамі Пагоня. Сьведкамі й удзельнікамі падзеі, якая нібы паўтарала пажоўклую фотавыяву, зрабіліся тыя гарадзенцы, якія прыйшлі 25 сакавіка ў Лялечны тэатр, дзе адбылася ўрачыстая Акадэмія з нагоды 75-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтак жа сама сцэна была аздоблена нашым гэрбам і сьцягамі. На працягу вечара мяне не пакідала пачуцьцё таго, што не зважаючы на тое, што мінуў немалы час і тых людзей са старога здымка ўжо, мабыць, няма ў жывых, іхняя вера ў нашыя беларускія ідэалы жыве дагэтуль.

Поўнай была ня толькі зала, але й балкон. Прамоўцы вельмі хвалявалiся. Ініцыятыву ўзяла Гарадзенская філія Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, пераемнікі справы стваральнікаў БНР. М. Патрэба меў даклад аб гісторыі змаганьня за незалежнасьць Беларусі ў 1917-18 гадах, прафэсар А. Пяткевіч пазнаёміў з дзеячамі Ураду БНР (даклад надрукаваны ў папярэднім нумары «Пагоні»), В. Руднік меў выклад пра дзеяньні Ураду падчас яго знаходжаньня ў Горадні. Рынкевіч дапоўніў сказанае зьвесткамі аб міжнародным становішчы Дзяржавы.Была зачытана віншавальная тэлеграма, дасланая з Англіі намеснікам старшыні гарвыканкама А. Мілінкевічам.

Хор клюба «Паходня» выканаў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Магутны Божа» і «Пагоню». Пасьля ўрачыстай часткі адбыўся канцэрт народнага ансамбля «Нёман» пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча культуры Беларусі А. Чопчыца.

(бс.)











**На здымках: 1. Прамаўляе прафэсар А. Пяткевіч. 2.Свой даклад чытае М. Патрэба. 3. Выступае ансамбль «Нёман».**

**Фатаграфаваў У. ВЫДЭРКА.**

## Дзьве дэманстрацыі

Урачыстасьці, прысьвечаныя 75-м угодкам абвяшчэньня незалежнасці БНР у Менску, пачаліся 20-га сакавіка, як гэта ня дзіўна гучыць, маніфэстацыяй бальшавікоў пад агульным лёзунгам «Фашизм не пройдёт». Выглядала гэта даволі недарэчна: пару тысячаў пераважна пэнсіянераў з няпрыстойна нахабнымі лёзунгамі, саматужна накрэмзанымі на ватмане й прымацаванымі да негабляваных ліштваў выклікалі даволі сумнае пачуцьцё. Моладзь, якая ішла па праспэкце й ехала ў транспарце, пасьмейвалася, трэба заўважыць, даволі недабразычліва.

21-га, у нядзелю, шэсьце ладзіў БНФ. Адразу варта адзначыць, што сярэдні ўзрост дэманстрантаў быў гадоў на дваццаць меней (прыкладна ад сарака да пяцідзесяці), а колькасьць разоў у дзесяць болей. Усё было дыхтоўна й прафэсійна падрыхтавана. Наперадзе з лёзунгам «Народ! Барані сябе сам!» пад барабанны бой крочылі харугвы Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў. Яны называліся «Вітаўт», «Альгерд», «Каліноўскі», «Агінскі», «Касьцюшка», «Няміга», «Сьвіслач» і г. д. Далей, мэтраў праз сто ішла асноўная калона. Наперадзе ў шляхетных строях, з сурмамі ў руках крочыў майстра Пузыня з сынам і паплечнікамі. За імі пад лёзунгам «ВІВАТ АЛЬБАРОСІЯ ЛІБЭРТА!» ішлі шчасьлівы Зянон Пазьняк і галоўны мастак шэсьця Мікола Купава.

Менск ужо даўно ня бачыў нічога падобнага. Уражвала ўсё: і колькасьць людзей, і колькасьць бел-чырвона-белых сьцягоў і Пагоняў, партрэты князёў, урада БНР, а самае галоўнае — выдатная мастацкая якасьць усяго гэтага. Дэманстранты з пляцу Незалежнасьці прайшлі ў Купалаўскі сквер, дзе адбыўся мітынг.

Калі па гэтых дзвюх падзеях ацэньваць сітуацыю ў грамадстве, дык мне здаецца, яна не на карысьць бальшавікоў. Праўда можна дапусьціць, што дваццатага людзей магло бы быць паболей. Проста было дрэннае надвор ́е, ішоў дробны дождж. А тыя, хто й дагэтуль хоча шыхтом павесьці нас да сьветлае будучыні, зразумела, людзі сталага веку, хворыя, ім не на дэманстрацыі хадзіць, а ляжаць бы пад пледам на канапе, ды глядзець тэлевізар. А таму ў мяне выклікаюць абурэньне тыя «шэрыя сьвіткі», якія выстаўляюць пад сьцюдзёны вецер старых, а самі хаваюцца да пары-часу.

**Я. ДУБРОЎСКІ,**
**Менск.**

## Амэрыканцы дбаюць пра нас

Днямі кангрэс Злучаных Штатаў Амэрыкі ратыфікаваў праэкт прэзідэнта Біла Клінтана аб вылучэньні Беларусі 65 мільёнаў даляраў для падтрымкі прамысловасьці і інтэграцыі яе ў агульны рынак.

**Г. А.**

## Увахадзінаў ня будзе

Адсутнасьць уласнай вытворчай базы для вырабу абсталяваньня для памежных службаў, непамерныя кошты на яго ў краінах блізкага замежжа не дазваляюць гарадзенскаму памежнаму атраду зрабіць навасельле паблізу вёскі Гожа. Толькі каб перавезьці існуючае абсталяваньне, праклaсьці лініі спэцсувязі і іншых камунікацый, памежнікам трэба некалькі дзесяткаў мільёнаў рублёў. Такіх сродкаў пакуль што няма. Таму ўрад прапануе ахоўнікам мяжы здабываць сродкі самім.

## На патрэбы праваслаўнай эпархіі

Для патрэб праваслаўнай Эпархіі хутка будзе перададзена архітэктурная забудова ў гістарычнай частцы Горадні па вуліцы Ажэшкі, 28. У двухпавярховым будынку, які, дарэчы, патрабуе добрага рамонту, будзе разьмешчана крама па продажу прадметаў культу і змантавана тэхналагічная лінія па вытворчасьці сьвечак. Поўная перадача будынка адбудзецца толькі тады, калі 28 сем ́яў гэтага дома атрымаюць новае жыльлё за кошт Эпархіі.

## Крадзежнікі ў сутанах

Скарыстаўшы пад ́емны кран, гарадзенскія крадзежнікі мінулай восеньню здолелі зьняць са званіц Сьвята-Уладзімерскай царквы ў Горадні бадай дзесяціпудовы медны звон. Як стала вядома, звон нядаўна быў знойдзены. Але ён ня хутка трапіць на сваё месца, бо злодзеі пасьпелі расьпілаваць яго на часткі.

На жаль, на лаве падсудных з аматараў лёгкай нажывы ніхто не апынуўся, бо, як высьветлілася, у гэтай справе замяшаны «служка Божы», якога папросту звольнілі з пасады.

(гс).

## ПАЖАР

**30 сакавіка напачатку другой гадзіны дня ў цэнтры Горадні паваліў чорны дым з дома № 1 па вул. Ажэшкі. Дом належыць Ленінскаму ЖРЭУ, аднак у ім зараз месьціцца, як найменей, 15 розных арганізацыяў.**

**Пажарнікі, якія хутка зьявіліся, убачылі, што гарыць драўляная лесьвічная пляцоўка на апошнім паверху, на якой стаяла шафа з дакумэнтамі, што, дарэчы, пярэчыць правілам пажарнай бясьпекі. Як высьветлілася, шафа і дакумэнты належаць аддзелу сацзабеспячэньня аблсабесу, які арэндуе памяшканьні ў гэтым будынку. Агонь хутка перакінуўся на сухую драўляную столь.**

**Для нашага горада гэта быў незвычайны пажар, паколькі ў яго тушэньні брaлі ўдзел адразу тры пажарныя аўталесьвіцы, што на памяці саміх пажарнікаў адбылося ўпершыню. Акрамя таго, давялося выклікаць міліцыю, каб пазбавіцца «дапамогі» шматлікіх цікаўных.**

**Тушылі каля дзьвюх гадзін. Згарэла 100 кв. м даху, лесьвіца і адзін габінэт, які арэндавала камэрцыйная фірма, і шафа з дакумэнтамі.**

**Прычыны пажара пакуль невядомыя.**

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**Вы можаце выпісаць газэту «Пагоня» на другое паўгодзьдзе 1993 года. Кошт падпіскі на 1 месяц — 50 руб. 50 кап., на 3 месяцы — 151 руб. 50 кап., на паўгода — 303 рублі. Індэкс газэты 63 124, выпісаць яе можна ў любым аддзяленьні сувязі Рэспублікі Беларусь. Падпіска на ўсе беларускія выданьні з 1 красавіка па 20 траўня сёлета.**

**Не забудзьцеся падпісацца на «Пагоню»!**





# Грамадзтва

## Абрэвіятуры — «пераемніцы»

Канец XX стагоддзя ўвойдзе, напэўна, у сусьветную гісторыю як час перамогі дэмакратыі. Ва ўсіх краінах Эўропы да ўлады прыйшлі тыя, каму народ выказаў давер на выбарах. Даверыўшы людзям, за якіх яны прагаласавалі, юрыдычную ўладу над сабой, грамадзяне краіны бяруць на сябе маральную адказнасьць перад усім сьветам за тое, што робяць іх прэзідэнт, парламэнт і ўрад.

Беларусь засталася адзінай эўрапэйскай краінай, у якой такіх зьмен не адбылося. Выбары ў нас прайшлі тады, калі яшчэ панавала таталітарная сістэма, і той факт, што ў парламэнт здолела трапіць невялічкая група непатрэбных сістэме дэпутатаў, азначае толькі тое, што таталітарызм пачаў даваць першыя расколіны. Да апошняй сэсіі Вярхоўнага Савета захоўвалася яшчэ юрыдычнае права парламэнта кіраваць Беларусьсю. Але калі ён парушыў нават закон, які сам прымаў, не даў народу выказаць сваю думку, дык і гэтае права зрабілася вельмі сумніцельным. Што датычыць маральнага боку справы, дык аб гэтым увогуле няма чаго і казаць.

Дэмакратычная дзяржава ўзроўню канца XX стагоддзя, за якую беларускі народ будзе несьці маральную адказнасьць, яшчэ не ўтварылася. У гэтым мы адсталі ад нашых суседзяў, якія перажылі разам з намі камуністычную дыктатуру. Новы посткамуністычны сьвет будуецца вакол нас, але мы, ня маючы яшчэ сваёй сапраўднай дзяржавы, хаця й пасіўна, удзельнічаем у гэтым будаўніцтве. Зараз закладваюцца тры цаглінкі, з якіх збудуецца новае сусьветнае жыцьцё ў наступным стагоддзі. Зараджаюцца тыя адносіны, якія будуць панаваць паміж намі і нашымі суседзямі. Калі нехта не зьвяртае ўвагі на Беларусь, гэта яго справа, але ўсе павінны ведаць, што беларусы яшчэ не сказалі свайго слова, а якім яно будзе, залежыць і ад падзей сёньняшняга дня.

Падобнае стварэньне новага сьвету адбывалася на пачатку нашага стагоддзя, калі на руінах імпэрый адраджаліся старыя і ўтвараліся новыя дзяржавы. Тыя з іх, якія раней ці пазьней апынуліся пад уладай расейска-камуністычнай імпэрыі, а сёньня выслабаніліся ад яе, лічаць сябе пераемніцамі дзяржаў, утвораных пасьля Другой Сусьветная вайны. Зразумела, нідзе тады не было ўсенародных выбараў у сёньняшнім разуменьні, але дзяржавы па-рознаму ўтвараліся ў сярэднявеччы, па-рознаму напачатку і ў канцы XX стагоддзя.

БНР па праву лічыцца дзяржавай беларускага народа, бо ўтварылася шляхам, які ў 1918 годзе ня мог быць яшчэ больш дэмакратычным. Калі гэта каму здаецца спрэчным, дык давайце зьвернемся да працы чалавека, які рабіў на камуністычную сістэму і якога нельга падазраваць у сімпатыі да БНР. Н. Сташкевіч ня мог сказіць усе гістарычныя факты, і ў сваёй кнізе «Приговор революции», якую напісаў пра дэлегатаў 1-га Усебеларускага зьезда, сказаў: «Большасьць прадстаўлялі валасныя, паявтовыя і губэрнскія земствы, зямельныя камітэты, настаўніцкія арганізацыі, саюз земскіх ды паштова-тэлеграфных служачых, нацыяналістычныя арганізацыі». Як вядома, пасьля разгону бальшавікамі зьезда, прэзыдыум утварыў Раду БНР, пра якую той жа аўтар напісаў: «У Радзе былі прадстаўлены ўсе палітычныя партыі і арганізацыі, якія дзейнічалі на акупаванай тэрыторыі Беларусі». Трэба толькі дадаць, што, акрамя некалькіх усходніх паветаў, якія былі пад уладай бальшавікоў, немцы акупавалі ўсю тэрыторыю сёньняшняй Беларусі.

На жаль, палітычныя абставіны не дазволілі тады беларускаму народу стварыць паўнакроўную дзяржаву. Але з намі ўжо павінны былі лічыцца. Бальшавікі вымушаны былі ўтварыць БССР. І менавіта абвяшчэньне 25 сакавіка 1918 года БНР дае нам магчымасьць стварыць у XXI стагоддзі дэмакратычную незалежную Беларусь.

На маю думку, недарэчна казаць, што сучасная РБ зьяўляецца пераемніцай і БНР, і БССР. Бо адна з іх утварылася дэмакратычна, а другая — каб задушыць першую. Калі наш народ даверыць сваім сапраўдным прадстаўнікам стварыць новую беларускую дзяржаву, будзе або одно, або другое. Або мы будзем мець гонар зрабіцца нашчадкамі лепшых сыноў Беларусі, або — несьці маральную адказнасьць за калектывізацыю і за Курапаты, за хімізацыю і меліярацыю, за зьнішчэньне мовы й памяці народа, за Чарнобыль.

Гісторыя дае нам шанц стаць стваральнікамі свайго лёсу, а як мы гэты шанц выкарыстаем — пакажа бліжэйшы час.

**Дз. КІСЕЛЬ.**



**Беларускі лёс: паміж Усходам і Захадам    Маляваў С. Харэўскі. г. Вільня.**

## Беларускія татары: ад Вітаўта да сёньня

26-27 сакавіка ў Менскім пэдагагічным інстытуце адбылася першая міжнародная канфэрэнцыя на тэму: «Татары-мусульмане на землях Беларусі, Летувы і Польшчы. Да 600-годдзя татарскага асадніцтва пры Вітаўце». Акрамя беларускіх навукоўцаў у ёй брала ўдзел госьці з Масквы, Летувы і Польшчы. Усяго прысутнічала больш за сто чалавек.

На думку татараў, што прыехалі з Расеі, на Беларусі зусім іншыя, больш лагодныя адносіны да іх братоў. Акрамя таго, большасьць выступіўшых навукоўцаў на канфэрэнцыі — беларусы, што сьведчыць аб зацікаўленасьці гэтай праблемай. Адзначалася і гасьцінасьць гаспадароў.

Пры падвядзеньні вынікаў была ўнесена прапанова надалей зацьвердзіць у Беларусі тэмы, зьвязаныя з татарамі, для абароны навуковых дысэртацый, а таксама спрыяць будаўніцтву мячэці. Адзначалася таксама, што тутэйшыя татары нічым не адрозьніваюцца ад беларусаў за выключэньнем веравызнаньня. Стварыць умовы для выдавецкай дзейнасьці, навучаньню дзьвюм татарскім мовам і адраджэньню іхняе культуры. На канфэрэнцыі паведамлялася, што татараў на Беларусі жыве больш за 12,5 тыс. чалавек.

Скончылася канфэрэнцыя цікавым канцэртам з удзелам беларускіх і татарскіх артыстаў. Дарэчы, на думку аднаго госьця, салістка беларускай опэры выканала некалькі татарскіх песень на бездакорнай татарскай мове.

**М. М.**

## Нечаканы дзяржаўны гімн

Каб зразумець грамадзкую сітуацыю ў сёньняшняй Беларусі, дастаткова ўчытацца ў такое паведамленьне друку: больш за год у рэспубліцы працягваецца конкурс на **лепшы** дзяржаўны гімн... А хіба ў Беларусі не было свайго гімна? — скажаце вы.— Хіба Беларусь ніколі ня мела свае дзяржаўнасьці? Хіба на Беларусі ўсё гэта ўпершыню?

Не ўпершыню, 75 гадоў таму 25 сакавіка ў Менску была абвешчаная незалежная Беларуская Народная Рэспубліка, якая мела ўсе атрыбуты дзяржаўнасьці, у тым ліку й гімн. Верш Краўцова Макара «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» на музыку Уладзімера Тэраўскага ў якасьці дзяржаўнага гімну разам з ідэяй незалежнасьці Беларусі і ўрадам БНР за гэтыя гады перажыў усе нападкі й рэпрэсіі, умовы падпольля й выгнаньня і сёньня зьяўляецца неадымным атрыбутам эмігранцкага ўраду БНР, які месьціцца ў ЗША. Цяперашні Вярхоўны Савет Беларусі, дзе большасьць складаюць камуністы, не прызнаў сябе праваперaемнікам «буржуазнай» БНР, хоць нейкім дзівам і прыняў яе герб і сьцяг. У сваю чаргу, эміграцкі ўрад БНР не прызнаў правамоцтвы Вярхоўнага Савету з-за яго пракамуністычнай і прамаскоўскай арыентацыі. Нават у самага зацятага працiўніка беларушчыны язык не павернецца назваць сёньняшнюю Беларусь краінай незалежнай у поўным сэнсе гэтага слова.

Такім чынам, атрымалася, што гімн БНР уключаны ў сьпіс прэтэндэнтаў на конкурсе разам з іншымі песьнямі — старымі й новымі, напісанымі спэцыяльна для гэтага конкурсу.

Зразумела, што атрыбуты нацыянальнае дзяржавы, яе рэліквіі — чым старэйшыя, тым больш каштоўныя, і тым больш трывала выглядае гэтая дзяржава. Крытычныя рэфлексіі сучасьніка тут гэтак жа недарэчы, як, скажам, крытыка функцыянальных і эстэтычных вартасьцяў вежы Гедыміна ў Вільні. Абавязкова знойдзецца крытык, які прапануе яе зьнесьці. А чаго вартыя выступы ў друку з прапановамі зьмяніць назвы самае нашае краіны ды яе народа!.. Словам, ёсьць рэчы часовыя, падуладныя волі сучасьніка і ёсьць — падставовыя, якія ён мусіць прымаць як безадносныя пункты адліку, дадзеную сістэму каардынатаў. Бо інакш ён ніколі ня спыніць свой выбар, заўсёды знойдзецца нешта «лепшае». Але, на жаль, зразумела гэта далёка ня ўсім ў сёньняшняй Беларусі.

Ня буду казаць пра камуністаў і памаскоўску настроеных змагароў за імпэрыю. Іх шлях на пэрыфэрыю грамадзкага жыцьця хоць і шумны, але няўхільны. Большасьць жа грамадзянаў Беларусі — абыякавыя. І гэта, відаць, нармальна, бо гімн мусіць вызначыць улада. У асяродзьдзі нацыяналістаў, сьвядомасьць якіх не назапасіла яшчэ здаровае долі кансэрватызму, пануе густаўшчына. Многія тут адраджаюць Беларусь «з нуля», ня ведаючы, або не надаючы значэньня досьведу папярэднікаў. У выніку шэдэўры нацыянальнае паэзіі непрыстойна сутыкаюцца ілбамі: гэтым больш падабаецца «Пагоня» М. Багдановіча, гэтым — «Магутны Божа» Н. Арсеньневай, іншыя прапануюць паланэз М. Агінскага з парадаксальнай для гімна назваю «Разьвітаньне з радзімай»... Але колькі ў нас выдатных вершаў і песень, якія маглі б стаць гімнам! Прынамсі, дзесяткі...

Нарэшце, яшчэ адзін чыньнік — кабінэтны. Чыноўніцкае асяродзьдзе, якое з уласьцівай яму сакрэтнасьцю, «пры зачыненых дзьвярох» і мусіць прыняць рашэньне пра **лепшы** гімн. Тут — свае вядомыя матывы — пралезці, прабіцца, адцісніць канкурэнта, тут — асабістыя прыхільнасьці, знаёмствы і г. д. Ва ўсёй гэтай калатнечы няма вызначаных крытэрыяў, арыенціраў, аўтарытэтаў. Гэта рэальнасьць краіны, якая шукае сябе, якая так цяжка выбіраецца з агульнага маскоўска-бальшавіцкага катла.

Летась 25 сакавіка ў Літоўскім драматычным тэатры на сходзе ў гонар Дня незалежнасьці Беларусі, на якім прысутнічалі кіраўнікі абедзьвюх краін, побач з Патрыятычнай песьняй В. Кудзіркі духавы аркестар выканаў гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». У такім, **рабочым**, кантэксьце ні ў кога з прысутных ня ўзьнікла сумневу — які ў Беларусі дзяржаўны гімн.

Але гэта ў Вільні. У Менску рэальнасьць яшчэ не перасягнула ўзровень конкурсаў на падставы дзяржаўнасьці. І абсурдальнае спаборніцтва сучасьнікаў з клясікамі працягваецца. Ніхто ня ведае, які гімн заўтра стане новым дзяржаўным гімнам Беларусі. Нечакана для сябе самога...

**(брат), Вільня.**

## «Красавік» на штэмпелі

Добра вядома, што ў Гарадзенскім тралейбусным парку шануюць дзяржаўную мову. Цешыць, што нават месячныя праязныя карткі штэмпелююць пабеларуску: «Красавік». На аўтобусных жа па-ранейшаму адбіты «Апрель».

Аднак і ў аўтапарку крыху адчулася «адліга». Апошнія надпісы ў салёнах гарадзкіх аўтобусаў папярэджваюць: «Кошт праезду 5 руб., штраф — 330 руб.!» У сакавіку некаторыя шафёры таксама пачалі аб'яўляць прыпынкі на беларускай мове. Праўда, такіх пакуль яшчэ ня шмат, але ж галоўнае — распачаць.

**(спадар).**

 







# Гаспадарка

● *Сустрэчы*

## Нас наведаў турэцкі пасол

У мінулую пятніцу, 26 сакавіка, а 15-й гадзіне ва унівэрсітэце Я. Купалы чакалі турэцкага пасла сп. Тансу Акандана. Госьця ўсё не было, па тэлефоне паведамілі, што ён спозьніцца на 20 хвілін. Аднак чакаць давялося каля гадзіны, дэкан аднаго з факультэтаў нават пакінуў канфэрэнц-залу са словамі «я сябе пакуль паважаю».

Зрэшты, сам спадар пасол, зразумела, ня быў вінаваты ў спазьненьні, бо вельмі насычанай аказалася праграма візіту. За паўдня ён наведаў старшыню аблвыканкама сп. Д. Арцыменю, старшыню гарвыканкама сп. С. Домаша, пабыў на прадзільнатічным аб'яднаньні і ў Музэі гісторыі рэлігіі. Кіраўнікі мясцовых уладаў патлумачылі госьцю асаблівасьці й магчымасьці рэгіёну: побач мяжа, ёсьць эўрапэйская чыгуначная каляіна і г. д. Вельмі дарэчы прыдаўся праэкт маючай быць пабудаванай побач горада мячэці.

Спадар пасол прыбыў у Горадню па запрашэньні мясцовага мусульманскага культурнага цэнтру й рэктара унівэрсітэта сп. А. Бадакова. Паводле дыпляматычнага пратаколу ён быў без жонкі, а таму адмовіўся застацца на вячэру... Госьць зрабіў вельмі прыемнае ўражаньне. Адзеты ён быў у чорны гарнітур-тройку, кашуля ў палоску, модны гальштук. Залочаная аправа акуляраў, залочаная абсадка, якой рабіў у часе гутаркі зацемкі ў сваім нататніку. На стале ляжалі ружы. Перакладчыца ажыцьцяўляла англа-расейскі пераклад.

Напачатку спадар рэктар распавёў госьцю пра унівэрсітэт і планы на будучыню. Напрыклад, ёсьць думка стварыць факультэт нацменшасьцяў, у тым ліку й татарскай. У горадзе, між іншым, навучаецца адзін турэцкі студэнт (у сталіцы — іх пяць). Была выказана прапанова наладзіць у будучыні абмен студэнтамі з Турцыяй.

Госьць падзякаваў за прыязны прыём і цікавы аповяд, а пасьля прабачыўся за тое, што не зьвяртаецца да прысутных на іх роднай мове (хіба, расейскай?), бо толькі яшчэ вывучае яе. Ён нагадаў, што Турцыя была першай краінай, якая праз 8 дзён пасьля Белавежскага пагадненьня прызнала Беларусь. Прычына простая, як сказаў ён, бо «мы здаўна лічым сябе эўрапэйцамі. Турцыя мела старыя сувязі з Беларусьсю». Праўда, госьць пры гэтым спаслаўся на блізкія 500-гадовыя угодкі першага пагадненьня Турцыі з Расеяй. Заўважу, што гэта трошкі розныя рэчы. Іншае пытаньне, што Турцыя была адзінай краінай апроч Ватыкана якая ніколі не прызнала падзелаў нашай Рэчы Паспалітай, за што ёй вялікі дзякуй.

Тым часам сп. Акандан засьведчыў някепскае веданьне нашай краіны. Ён сказаў, што «мост», які лучыць дзьве нацыі, грунтуецца на «гуманітарным фактары, на пэўнай сацыяльнай стабільнасьці на Беларусі і талерантнасьці народа». Паміж краінамі падпісана пагадненьне ў галіне культуры, адукацыі, навукі й спорту.

Прыклад татараў паказвае, што на Беларусі могуць жыць у згодзе розныя па веравызнаньню і звычаях народы... Спадар пасол знаёмы з праблемай існаваньня беларускай мовы. Не зважаючы, што ёй грэбавалі, яна здолела выжыць і ў некаторай ступені, па сьведчаньні лінгвістаў, дзякуючы татарам, якія засвоілі беларускую мову й выдалі на ёй (на адной з 14-ці) Каран.

Як я заўважыў, праявілася імкненьне атаясамліваць чыньнікі нацыянальны і рэлігійны. Госьць, напрыклад, са словаў сваіх візаві, узгадаў пра турэцкія могілкі, якія нібы захаваліся непадалёк Горадні. Мова, аднак, ідзе пра татарскія, але адначасова, канешне ж, мусульманскія могілкі. Зрэшты, гэта ня так важна, калі існуе жаданьне шчыльней супрацоўнічаць з прыязнай нам краінай.

Знаёмы мне актывіст нашага мусульманскага руху падказаў, што я магу спрэзэнтаваць турэцкаму госьцю маю кніжку з адпаведнай момантү назвай «Янычары». У мяне, аднак, не было яе з сабой і ўвогуле слова «янычары» выкарыстана ў ёй у пераносным сэнсе, ды ніякім чынам не датычыць Турцыі. Праўда, мне тут жа прыгадалася , што калісьці ў Горадні ў магнатаў існавалі шырока вядомыя «янычарскія капэлы», аднак гралі ў іх свае браткі-беларусы.

Пасол ласкава згадзіўся пагутарыць з журналісткай вабласнога радыё. Я выйшаў на вуліцу. Побач унівэрсітэцкага будынка стаялі два «мэрсэдэсы», на першым — сучасьнейшым трапыхаўся турэцкі сьцяжок з паўмесяцам і зорачкай.

**С. АСТРАВЕЦ.**

## Будучыня — за Беларусьсю, а не «Белоруссией»

Убачыў нядаўна новую рубрыку ў газэце «Высота» пад назвай «Партыйнае перакрыжаваньне». Па задуме рэдакцыі ў ёй выступяць і адкажуць на пяць пытаньняў лідэры ўсіх зарэгістраваных на Гарадзеншчыне партый і рухаў.

Першым у бой уступіў спадар Архіпаў, старшыня гарадзенскага рэгіянальнага аддзяленьня ДСПС, які выказаў свае погляды ў артыкуле пад назвай «Будущее — за социалистической Белоруссией».

Аб чым жа распавядаў нам шаноўны навуковец? Чытачы пачулі скогат пра тыя незваротныя й далёкія гады, тугу па Саюзу, па двухмоўю, цьвёрдай руцэ і ўсіх астатніх «каштоўнасьцях» разьвітога сацыялізму.

На многіх выказваньнях старшыні так і хочацца засяродзіць увагу, але не для таго, каб захапіцца разумнай думкай ці слушнымі прапановамі, а каб сказаць пра падман, шчыры сафізм і не зусім зразумелую абразу нам, беларусам.

«...Никогда в истории нашей страны еще не было такой тревожной ситуации. Даже после окончания Великой Отечественной войны... Наше сегодняшнее экономическое положение можно сравнить разве что с периодом оккупации страны немецко-фашистскими захватчиками?! ...И не видно света в конце туннеля»...

Вось так, шаноўныя грамадзяне незалежнай Беларусі. Вось табе і Батый, расейскія цары-захопнікі, вось табе і шведы з французамі. І нават Гітлер з сатэлітамі! Аказваецца, дэмакраты прынесьлі больш шкоды, чым усе вышэй пералічаныя. Як бы й не было Хатыні, Трасьцянца, палеглай у попеле і руінах Беларусі, пасьляваеннай галадухі. Няўжо тады, ў 1941-1950 г. г. маёй маці жылося лепш, чым цяпер?

Усім вядома прыхільнасьць старэйшых да былых каштоўнасьцяў. Ну добра, не прызнаеце вы сувэрэнітэт Беларусі, яе вякавой гісторыі, права нацыі людзьмі зваца — воля ваша. Але ж ці можна адкрыта абражаць кіраўнікоў незалежных дзяржаў! «Мы рассчитываем на молодежь в своей благородной борьбе по освобождению страны от оккупации ельциных, шушкевичей, кравчуков, которые временно захватили наши святыни, оскверняют их, разрезают страну на части, получая от этого садомазохистское удовольствие».

Вядома, у прававой дзяржаве пракурор адразу ж узбудзіў бы крымінальную справу за такія «патрыятычныя» выказваньні...

Па Архіпаву з усяго гэтага (развалу СССР) «выход один: объединение или смерть». Што ж, кожны робіць свой выбар. Мы, беларусы, паміраць не зьбіраемся.

**Г. СЫСОЙ.**

## «Тэста» паводле эўрапэйскіх стандартаў

**Некалі, яшчэ напачатку васьмідзесятых гадоў мне давялося быць ва Усходняй Нямеччыне, тады яшчэ ГДР. Дагэтуль засталіся яскравыя, цёплыя і прыемныя успаміны аб гэтай краіне. Зараз магчыма і дзіўна, але там мне здавалася, што гэта дзяржава, у якой няма нешчасьлівых людзей. Я бачыў там ня толькі вітрыны крамаў, чыстыя гарады, модна апранутых людзей. Мне давялося некалькі разоў быць на розных прадпрыемствах і нават працаваць з нямецкімі рабочымі. Найболей уражвала кампактнае абсталяваньне, сучаснае рабочае месца, працаздольнасьць людзей і, вядома, прадукцыя сусьветных стандартаў, якая экспартавалася амаль ва ўсе багатыя краіны Заходняй Эўропы.**

**Зараз цяжка ўявіць, мінула больш за дзесяць гадоў, у некалькіх кроках ад нашай Горадні я ўбачыў тое ж самае.**

Маленькі кавалак зямлі, абнесены вакол агароджай, сучасна й проста збудаваны цэх, на тэрыторыі яшчэ працягваецца будоўля, аднак адразу можна здагадацца, што трапіў не на дзяржаўнае прадпрыемства...

«Testa» — сумеснае беларуска-расейска-аўстрыйскае прадпрыемства па вырабу паддонаў. На першы погляд, звычайных паддонаў, якія паўсюдна можна ўбачыць і на нашых заводах, калі возяць малако ў бідонах альбо што-небудзь іншае. Дарэчы, зьбіваюць іх іржавымі цьвікамі, звычайна дзе-небудзь у завугольлі завадзкой тэрыторыі, пэнсіянеры. Ды і лёс іх нядоўгі, хутка б'юцца, і даводзіцца пілаваць новыя дошкі, выпрамляць цьвікі і зноў лупцаваць малаткамі.

Аказваецца, ніхто ў нашай Беларусі нават не падазрае, што кошт сучаснага паддона, зробленага па адпаведнаму стандарту, уваходзіць у абавязковы кошт пастаўляемай прадукцыі. І ніхто, дарэчы, на Захадзе не адмаўляецца за яго плаціць. Думаю, усё ж не патрэбна тлумачыць, чаму тыя ці іншыя пакункі на Захадзе пры перавозках кладуць на паддоны. Праўда, у нас і дагэтуль з вагонаў выгружаюць рукамі, а потым кідаюць у брудны кузаў. Пра якія паддоны можа быць гаворка. Урэшце, так сьведчыць жыцьцё, бо тыя прадпрыемствы, якія ўсё ж імкнуцца выглядаць перад заходнімі калегамі па-сучаснаму, адпраўляюць сваю прадукцыю на зьбітых кустарным чынам паддонах, за якія ім ніхто не плаціць ніякіх грошай. А дарагая драўніна, выходзіць, адпраўляецца за так. Нічога дзіўнага. Нам яшчэ не раз давядзецца адкрываць для сябе Амерыку, перш чым мы калі-небудзь адкрыем усяму сьвету Беларусь. А пакуль асноўнымі пакупнікамі гарадзенскіх паддонаў зьяўляюцца Нямеччына, Аўстрыя, Італія, цікавяцца навінкай Расея, Украіна, Прыбалтыка. Дарэчы, купляюць іх заможныя багацеі на сусьветных рынках таму, што прадстаўнікі швэйцарскай фірмы па кантролю за якасьцю эўрапэйскага ўзору, якія нядаўна наведалі дзеля гэтага Горадню, ацанілі якасьць тавара па самых высокіх мерках. Наш паддон, аказваецца, нічым ня горшы ад нямецкіх, польскіх ці румынскіх. Праўда, не пасуюць пры адборы і самі вытворцы, якія ўжо здолелі ацаніць заходні рынак.

Бадай болей за ўсё мне спадабалася сама тэхналогія. Адзінае, што трохі засмучае: сыравіну, г. зн. дошкі, вязуць у Горадню з Краснаярска, Брацка, Архангельска. Праўда, я задаю сабе пытаньне: адкуль жа яе возяць у Нямеччыну? І ўсё ж вярнуся да невялікага сучаснага будынка, дзе аўстрыйскімі спэцыялістамі ўстаноўлены дзьве сучасныя лініі нямецкай вытворчасьці. Першае, што нагадала мне аб прыгожай краіне — чысьціня й цяпло, нічога, што магло б перашкаджаць у працы. Дошкі падвозяцца карай, падаюцца на габлярны станок, без дапамогі рабочага габлююцца і роўненька па стандарту адпілоўваюцца па патрэбных памерах. І бадай адзінае, што робіцца ўручную — акуратна складваюцца, каб затым трапіць далей, дзе ўтаматамі яны зьбіваюцца ў паддоны. Абрэзкі, якія застаюцца, таксама роўненька складваюць і потым прадаюць за валюту. Не прападае і стружка. Яна высасваецца спэцыяльнымі вентылятарамі і трапляе ў печку, якой абаграваецца ўсё памяшканьне. Застаюцца яшчэ і лішкі, якія «Testa» прадае мясцовай птушкафабрыцы.

Дарэчы, зьбіваюцца паддоны спэцыяльнымі цьвікамі з нарэзамі, якія завозяцца пакуль з Польшчы. У нас такіх яшчэ не прадукуюць. Акрамя ўсяго, на паддонах ставіцца знак чыгункі, вядома, замежнай, якая дазваляе іх транспарціроўку.На двух лініях «Testa»у месяц мае магчымасьць прадукаваць 150 тысяч паддонаў, а агульны штат людзей разам з сваім аўтапаркам налічвае тут каля трохсот чалавек. Пры гэтым, прадпрыемства выкарыстоўвае аўтаномнае цяпло і электраэнэргію, не падключана ні да якіх гарадзкіх камунікацыяў.

Аднак было б дзіўна, каб нават такое прадпрыемства ў нашай краіне ня мела праблем. Да прыкладу, па спэцыяльнай пастанове Савета Міністраў для недзяржаўных прадпрыемстваў «Testa»атрымлівае столькі ж паліва для цэлага парку сваіх машын, колькі і сумесныя прадпрыемствы, у якіх толькі дзьве ці тры машыны. Шмат складанасьцей прынесьлі і разрывы эканамічных сувязей паміж рэспублікамі. Эфектыўнасьць вытворчасьці зьніжаецца з нарастаючай інфляцыяй. Але ж гэтым зараз нікога не зьдзівіш — гэта церпяць зараз усе.

Начальства на прадпрыемстве мне падалося добразычлівым, ды і аб нечым абстрактным, як часам які-небудзь галоўны інжынер дзяржаўнага завода, гаворку не заводзіць. Увесь час толькі справа, і часта паглядае на гадзіньнік. Заўважыў, што сакратарка мае шмат працы, але ўвесь час у настроі. Гэта, пэўна, усё ж ад прыроды. Рабочыя, можа, і рады былі б падзяліцца новымі ўражаньнямі, толькі яны ўвесь час занятыя справай, што й адрывае іх ад працы. Дарэчы, сюды іх набіраюць па кантрактнай сістэме. Калі першыя тры месяцы здолееш сябе зарэкамэндаваць як належыць, лічы, што будзе праца. Заробак, з іх слоў, не ніжэйшы, чым паўсюдна ў горадзе, хоць і не самы высокі. Затое кожны дзень дармовае якаснае харчаваньне, за кошт фірмы праезд у гарадзкім транспарце, на працу кожную раніцу падвозіць аўтобус. Кажуць: усё, як у людзей...

Быў бы няпоўным мой аповяд, калі б не нагадаў, як жа ўзьнікла гэтае сумеснае прадпрыемства. Увосень 1991 года, пасьля жнівеньскага путча, філія маскоўскага сумеснага прадпрыемства «Калумб», што мясьцілася ў Горадні пад назвай «Гэрмэс» і займалася вытворчасьцю скураных вырабаў, стала практычна невыгоднай. І тады ў старшыні філіі У. І. Сьвістова зьявіліся новыя напалеонаўскія планы. Трэба аддаць належнае гэтаму чалавеку, які ніколі раней не займаўся вытворчасьцю паддонаў, а доўгі час працаваў на заводзе аўтамагнітол. Бо праз дзевяць месяцаў на пустым полі, дзе яшчэ нядаўна каласілася збажына, вырасла ня проста прадпрыемства, але і зьявілася першая прадукцыя сусьветнай якасьці.

Вось і думай пасьля гэтага — ці патрэбен нам гэты рынак і незалежная Беларусь...

**М. КАРНЕВІЧ.**

 



# Эміграцыя / Мэмуары

## Язэп Малецкі
## ВАЙНА БЕЛАРУСКІМІ ВАЧЫМА
### Успаміны

Выдавецтва «Пагоня»
Таронта 1976

**Мэта кніжкі — перадаць для гісторыі праўдзіва падзеі на нашай бацькаўшчыне ў Другую Сусьветную вайну, паказаць вялікі ўздым народу ў змаганьні за свае правы ды ягоную працу над адбудовай вольнага жыцьця. Яна разам і прызнаньне тысячам суродзічаў, якія ў цяжкую пару змаганьня з ворагамі не шкадавалі сваіх сілаў, здароўя, маёмасьці, свайго жыцьця.**

**Што апісаў у кніжцы, таго ў бальшыні быў сьведкам, тое сам перажыў. Чаго ж ня бачыў, тое запісана ад веры годных людзей. Калі пісаў, ніколі не мінаўся з праўдай, ці гэта будзе каму падабацца ці не.**

**Аўтар.**

**1. Апошнія дні незалежнай Польшчы.**

Чырвоным колам з сівога туману ўсходзіла сонца, калі мой цягнік мінаў Варапаева. Паабапал чыгункі мігалі дрэвы, сенажаці, палосы й палеткі жоўтага й зялёнага збожжа, а далей — хаты з варыўнямі, клецямі, гумнамі й клунямі. Дзе-нідзе палі былі ўсеяныя бабкамі жыта й ячменю. Наш цягнік усунуўся ў мяшаны лес. Векавыя дрэвы стаялі спакойна, паважна і толькі дзіўным прарэзьлівым рэхам адбівалі гук цяжкога подыху паравозу.

Туман радзеў. Людзі з косамі й граблямі ішлі на сенажаці, або стаялі на дарожках ды пазіралі на праходзячы цягнік. Там вось, праваруч на ўзгорку, стаіць ціхая вёска Казаронцы — сядзіба гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры, дзе ў 1936 годзе, у прысутнасьці павятовага камэнданта паліцыі з Паставаў, я чытаў лекцыю і пасьля быў рэвідаваны.

Выехалі пасьля на раўніну, густа як вокам сягнуць, усеяную вёскамі й цэркаўкамі і ўрэшце—Шаркаўшчына. Тут жыве й піша наш сялянскі паэт Міхась Машара, вершы якога мы ўпершыню друкавалі ў часопісе «Шлях моладзі», ды пасьля выдалі зборнікам «На сонечны бераг».

Без уражаньняў праехаў я Пагоста і толькі калі ўбачыў мёрскія азёры, дык сэрца пачало біцца мацней. Колькі гэта разоў пабываў я ў Мёрах, на кірмашах і хвэстах, колькі разоў гутарыў тут з сябрамі на грамадзкія тэмы! Тут польская паліцыя перахоплівала мае беларускія кніжкі й газэты, тут тузалі й тэрарызавалі маіх сяброў Кукуця й Завадзкага. Паглядзеў я з цягніка на Мёры й на людзей, што здавалася здалёк ледзь краталіся, і мне стала нейк сумна: я больш не цягаю беларускіх кніжак, не вяду гутарак,— настае трывожны й адказны час.

Пасьля 20 часінаў цягнік крануўся далей. І вось Шчавенскае возера леваруч ды Мілашоўскае зправа. За возерам жа, на ўзгорку, стаіць стройны вялікі дом з белымі вокнамі, што пабудаваў мой дзядзька. Гэта мая першая сьвятыня веды — пачатковая школа, у якую хадзіў у 1914—17 гадох. О, як я любіў гэтую школу й ўсіх, хто там быў!

А там, за вёскай Мілашовам і за лесам, у якім я ведаю кожны курган, кожны куст і кожную птушку, стаіць горда над ракой Вяткай мая родная вёска Якужы. Толькі я еду цяпер да Друі, бо насамаперш мушу зьявіцца ў воласьці ды на доўгай анкеце падаць: чаго й да каго прыехаў, чым і як доўга буду займацца. Гэткія ўжо парадкі завяла тут панская Польшча.

І вось я ў Друі. Іду вуліцай Льва Сапегі, вялікага канцлера літоўскага, славутага рэдактара й выдаўца трэйцяга Літоўскага Статуту 1588 году.

Друя ляжыць на старадаўнім шляху Дзьвіною «з варагаў у грэкі». Гэта таксама нашыя з Вільні вароты на Пскоў, Вялікі Ноўгарад ды Маскоўшчыну. Гэтымі «варотамі» ад XIII стагоддзя ішлі нашыя войскі ў бой з нямецкімі мечаносцамі за Лівонію, з Маскоўшчынай за Пскоў, Вялікія Лукі, Полацак, Віцебск, Смаленск. Ня раз Друя ў гэтых змаганьнях нашага народу пад сьцягамі Пагоні за свабоду й незалежнасьць была руйнаваная й паленая.

Ужо ў 1515 годзе, пры Жыгімонце Старым, спалілі яе маскалі, калі князь маскоўскі Васіль Іванавіч намагаўся праз гэтыя вароты падыйсьці да нашае сталіцы Вільні. Тутака затрымоўваўся кароль Сьцяпан Батура ў часе паходу на Пскоў і калі вяртаўся адтуль пераможцам. У 1632 годзе Друя ізноў была спалена маскоўцамі ды хутка адбудавалася Сапегамі.

Друйскімі варотамі ўварваліся ў кірунку Глыбокага ды Менску арміі Шэрэмецева й Стрэшнева, ствараючы перадумовы для маскоўскага наезду ў 1654—55 гадох. У Друі 18 жніўня 1655 году князь Януш Радзівіл, гэтман Вялікага Княства Літоўскага, перайшоў на бок шведзкага караля Густава. Друя нішчылася й палілася шведзкімі ды маскоўскімі войскамі і ў Паўночнай вайне 1701—1709 гадоў. Друя была цэнтральным пунктам маскоўскай атакі таксама і ў часе Барскай Канфэдэрацыі 1769—72 гадоў ды ў часы паўстаньня Касьцюшкі. Тут таксама ляглі ў 1812 годзе, на сыпкіх пяском за старым могільнікам, косьці французаў.

І вось я мінаю друйскі абаронны замак, былую ўласнасьць Мілаша, што быў, як людзі казалі, лёкаем князя Сапегі. Далей магутны барокавы касьцёл Сьвятое Тройцы, пабудаваны ў 1643 годзе князем Сапегай. Мінаю касьцёл і кляштар. Там ужо няма беларускіх ксяндзоў і законьнікаў — на іх месцы насланыя палякі. Беларуская справа на беларускай зямлі ня любая палякам, як ня любая й маскалям.

Знаёмыя суседзі й жыды дапытваліся навінаў. Адказаў проста: вайны нам не мінуць. Запоўніўшы анкету ў валаснай управе я пайшоў на рынак, дзе спаткаў братоў Мусіных...

— Польскай адміністрацыі перавярнулася ў галаве,— кажу я,— бо сталі нас душыць сапраўды не на жарты: закрылі Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры і яго гурток у Шальцінях, беларуская газэта ня можа ўжо выходзіць у сьвет, паліцыя па хатах забірае й нішчыць беларускія кніжкі, нат забараняе моладзі вечарыны.

— Але будзе вайна,— казаў Мусін,— тады ўсё зьменіцца й мы знойдзем сабе работу...

— Напэўна зьменіцца, толькі ці на лепшае?

— Горшага быць ня можа, як сядзець безработнаму з дыплёмам і спадзявацца ласкі ад сваіх гнябіцеляў.

Дома я ўсё знайшоў па-старому. Толькі майму бацьку цялушка бок адбіла, калі ён заваліўся, вядучы яе ў гізы з поля. Людзі працавалі нармальна, толькі дужа слухалі радыё й дзівіліся, што нямецкі Рыбэнтроп «абнімаўся й цалаваўся» з расейскім пралетарскім Молатавым. Да мяне зблізку й здалёк прыходзілі суседзі ды пыталіся, што рабіць. Я толькі чатыром маім адданым хлапцом расказаў аб грозным палажэньні ў сьвеце. Іншым параіў панакупляць солі, газы, сярнікоў і мыла. Я шмат часу ляжаў у садзе або каля рэчкі, калі можна было купацца, ды раздумваў над палітычным крызісам у Эўропе. Цяжкія думкі прыходзілі ў галаву.

Атмасфэра ў Польшчы ўжо была такая,— што кожнага актыўнага палітычнага апанэнта садзілі ў Картузскую Бярозу, канцэнтрацыйны лагер, дзе вязьнямі «апекаваўся» славуты польскі шавініст, пінскі ваявода Костэк-Бярнацкі. Я не сьпяшаўся папасьці туды й таму сядзеў ціха.

Маскоўскае радыё гэтым часам залівалася аб тым, якое там «шчасьлівае жыцьцё» пад «сонцам Сталінскай канстытуцыі». Гром і пяруны кідала на дэмакратычныя дзяржавы й Польшчу. Не чакаючы канца майго адпачынку, 27 жнівеня я выехаў у Варшаву. Нашыя сяляне ў лінейках і каламажках вязьлі сваіх сыноў у чужое войска, змагацца й гінуць за чужую справу.

Быў ціхі асеньні вечар, калі з цяжкой душой я выязджаў у чужы край. Магутныя векавыя званы касьцёла ўдарылі на «Анёл Панскі». Я ледзь не заплакаў... Гэтыя званы помнілі веліч і славу маёй бацькаўшчыны. Іх зык на Дзьвіне даходзіў да Прыдруйску, Полацку, Дзьвінску. Чуў я іх апошні раз.

Глянуў я яшчэ раз на касьцёл і яго магутную вежу, на кляштар, гімназію і ўсё стала перада мной як на яве: ксяндзы, законьнікі, вучні й наш сялянскі беларускі народ. Там не грымеў ужо даносны голас справядлівага айца Андрэя Цікоты. Не было ўжо там мудрага пралата Абрантовіча, адданых божай і народнай справе айцоў Гэрмановіча, Хамёнка, Дашуты, Смулькі. Там не было нашых клерыкаў і законьнікаў. Як дзікі каршун разганяе стадку шпакоў на полі, гэтак і польская адміністрацыя, забыўшыся аб сваім ганебным лёсе нявольнікаў і нашай 400-гадовай дзяржаўнай лучнасьці, разагнала беларускую інтэлігенцыю па ўсім сьвеце, абы толькі не сядзелі на сваёй зямлі. Але й на гэтых пыхай адурманеных паноў, прыйдзе дзень суду.

Успомніў я маю тут навуку, мае сцэнічныя выступы й першую юнацкую патаемную працу, калі Рачыцкі, А., С., А. і я зьбіраліся ў салёне жыда Ворчыка й абмяркоўвалі нашыя справы. Гумару тут заўсёды было больш, чым справаў. Мы чыталі вершы Купалы, Коласа, Вінцука Адважнага й дамарослых паэтаў. Актыўны бралі ўдзел ў справе беларускіх дадатковых навук у касьцёле. У 1927 годзе на 25 Сакавіка мы выдалі адозву да народу ў ліку 120 экзэмпляраў, адбітую на гімназічным рататары. Мы ўслаўлялі Акт 25 Сакавіка, заклікалі нашых братоў да веры ў зьдзяйсьненьне гэтага Акту й змаганьне за яго, паказваючы, што нашыя браты на ўсходзе будуюць свой дом. Мы не былі пэўныя гэтага, але нам здавалася, што тагачасная Савецкая Беларусь была нашым новым нацыянальным домам.

У Вільні я сустрэў натоўпы змабілізаванай моладзі. Чакалі абмундзіраваньня. Места ноччу было не асьвечанае. Усе гаварылі аб вайне й гадалі будучыню. Шмат хто пытаўся:

— Як доўга патрывае вайна?

— Тры месяцы,— адказваю.

— О, дык можна схавацца й перачакаць.

— Радзіць вам нічога не магу. Самі бачыце — ваенны час і ваенныя законы. Майце адкрытыя вочы й вушы, як было заўсёды ў нашым народзе.

Пасьля я адведаў, на вуліцы Завальнай, і рэдактара Янку Пазьняка. Гутарылі аб бягучых справах.

— Душаць да канца! — казаў ён.— «Беларуская крыніца» ад даўжэйшага часу ня можа паказвацца ў сьвет. Прыдзіраюцца да кожнага слова. Я іду 27-ы раз на суд! Але, як відаць, ня доўгае іх панаваньне. А як там маецца інжынер Адольф Клімовіч?

— Быў ён у мяне два тыдні, пакуль не дастаў працу пад Варшавай. Цяпер заняты сваёй аграноміяй і сямейнымі справамі.

— А што чуваць у Варшаве?

— Амаль усе палякі хочуць вайны, бо кажуць што цяпер настаў гістарычны мамэнт, калі яны разам з альянтамі могуць немцам нагарбаваць скуру ды адабраць Гданьск.

— А ці у гэтай валынцы бальшавікі ня ўдараць з усходу?

— Усё магчыма,— адказаў я. І радзіў развязаць ды пахаваць па прыватных дамох беларускія кніжкі, а што можна — як найхутчэй распаўсюдзіць у народзе.

**Працяг будзе.**

На выданьне гэтай кнігі, назва ў арыгінале «Пад знакам Пагоні», склалі ахвяраваньні ў аўстралійскіх даларах: А. Захарэнь — 100 дал., А. Лаўрыновіч — 700 дал., К. Сіткоўскі — 100 дал., сябры Беларускага Аб'яднаньня ў Вікторыі, Аўстралія — 100 дал., сябры Беларускага Аб'яднаньня ў Новым Паўдзённым Уэльсе, Аўстралія — 150 даляраў.



## Культура

# Каб жыла Каложа

Як многа было створана на беларускай зямлі, і як мала дайшло да нас. Але ўсё ж ёсьць сярод гэтай захаванай спадчыны ўнікальныя бясцэнныя помнікі.

У Горадні на правым беразе Нёмана па сёньняшні дзень стаіць пабудаваная каля 1180 году Барысаглебская (Каложская) царква, якую слушна называюць цудоўным пэрлам прынёманскага краю. Храм гэты — сьведчаньне выключна высокага ўзроўню матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі XII стагоддзя. У тыя далёкія часы Горадня магла ганарыцца прыгожай пабудовай на Замкавай гары, «Ніжняй», Барысаглебскай і Прычысьценскай цэрквамі, зя якімі зьвязаны адзін з самых першых успамінаў аб Горадні ў Іпацьеўскім летапісу 1183 года. Тут, нароўні з Галічанскай, Наўгародзкай, Полацкай склалася самастойная яркая архітэктурная школа, зьяўленьню якой, праўдападобна, мы з´абавязаны праслаўленаму дойліду Пятру Міланэгу.

Гарадзенская Барысаглебская царква ўяўляе сабой шасьціслупны трохапсідны храм з тоўшчай сьценаў каля 1,2 мэтра. Ніжняя частка сьценаў унутры прарэзана нішамі з фрагментамі фрэсак XII — XIII стагоддзяў. Асноўная ўнутраная паверхня сьценаў царквы мела своеасаблівае дэкаратыўнае аздабленьне ў выглядзе шматлікіх круглых адтулін, якія ўтваралі гарлавіны галасьнікоў — гліняных амфарападобных збаноў, што былі ўмацаваныя ў сьценах паземна ў шахматным парадку. Яны стваралі непаўторную акустыку храма: кожны галасьнік зьяўляўся рэзанатарам для акрэсьленай частаты гука і садзейнічаў утварэньню эфэкта «шэпчучых сьценаў». Рознагалосае прыемнае рэха падчас набажэнстваў садзейнічала ўтварэньню асаблівага настрою.

Інтэр´ер Каложскай царквы быў надзвычайна эфэктны і своеасаблівы. У храм уводзілі высокія стройныя парталы. Ад галоўнага заходняга ўваходу чалавек бачыў усю глыбіню й вышыню ўнутранай прасторы. У адрозненьні ад іншых цэркваў XII стагоддзя хоры тут былі паднятыя даволі высока і тым самым не стваралі паўзмроку і адчуваньня прыгнечанасьці. Уздоўж бакавых сьценаў цягнуліся ад хораў да алтара драўляныя балконы. Цэнтральная частка храма была залітая сьвятлом з вокнаў сярэдняй главы і вокнаў бакавых сьценаў. Вясёлыя блікі каляровай маёлікавай падлогі стварылі ўзьняты настрой. Сьветлы аптымістычны характар памяшканьня з яго чырвона-белым каларытам сьценаў кантраставаў з таямнічым паўзмрокам алтарнай часткі, адкуль праступалі ў водблесках сьвячэй маляўнічыя фрэскі.

Нетрадыцыйнай і адметнай рысай царквы зьяўляецца апрацоўка фасадаў. Паверхня сьценаў у ніжняй частцы аздоблена шматлікімі рознага памеру паліраванымі і неапрацаванымі глыжакамі з граніту і гнэйсу, устаўленымі ў сьцену плоскай паверхняй звонку. У верхняй частцы сьценаў — набраныя з маёлікі разнастайныя фігуры крыжоў. Арнамэнт з маёлікі цудоўна спалучаецца з чырвона-белай муроўкай, якая выканана з плітачнай цэглы-плінфы. Усё гэта надае ўбраньню царквы дух свабоды і лёгкасьці і набліжае да старажытнабеларускага народнага мастацтва вышыўкі.

Пабудаваная ў XII стагоддзі і асьвячоная ў імя сьвятых пакутнікаў Барыса й Глеба, царква вось ужо васемсот гадоў падзяляе складаны і багаты гістарычнымі падзеямі лёс беларускага народу. Так другая назва царквы — Каложская — гэта напамін аб падзеях пачатку XV стагоддзя. У 1405 годзе вялікі князь Вітаўт узяў у палон жыхароў прыгарада Пскова — Каложы і пасяліў іх на зямлі, якая прылягала да Барысаглебскага храма. Напрыканцы XV стагоддзя пры царкве быў створаны манастыр, які меў нават сваю мастацкую школу. У 1609 годзе праваслаўны Барысаглебскі манастыр стаў вуніяцкім. У сярэдзіне XVII стагоддзя падчас вайны з Маскоўскай дзяржавай храм быў зноў, як і падчас пахода князя маскоўскага Івана ІІІ у XVI стагоддзі, моцна пашкоджаны, а манастыр спустошаны. І толькі пасьля 1692 году архімадрыт Сымон Агурцэвіч адбудаваў, хаця і ня цалкам, разбураную царкву. Напачатку XVIII стагоддзя архімадрыт Іасафат Іаахімавіч вырашыў ставіць на месцы Барысаглебскай новы храм, аднак шмат нарыхтаванай цэглы было адабрана ў яго на вайсковыя патрэбы, і старажытная Каложская царква, на шчасьце, не была зруйнавана.

Да 1720 году адносіцца ўспамін аб тым, што абрыў, які паступова размываў Нёман, падышоў да самага храму, што прывяло да нязначнага нахілу сьцяны. Архімадрыт Каложскага манастара ордэну базыльянаў доктар багаслоўя Ігнаці Кульчынскі, першы на Беларусі дасьледчык старажытнасьцяў, паведамляў, што царкве пагражае небясьпека і ў сувязі з гэтым ён загадаў пабудаваць на стромкім беразе агароджу, а таксама пасадзіць розныя дрэвы.

Пасьля Полацкага сабору 1839 году, які зьліквідаваў вуніяцкую царкву на беларускіх землях, Барысаглебскі манастыр быў пераўтвораны ў праваслаўны. У саракавых гадах у заходняй сьцяне зьвілася небясьпечная расколіна, і ў хуткім часе набажэнствы ў храме прыпыніліся. У ноч з 1 на 2 красавіка 1853 году паўднёвая сьцяна, частка заходняй сьцяны, дах і перакрыцьці абваліліся ў Нёман. Сьвецкія і духоўныя чыноўнікі паставіліся да гэтага з надзвычайнай абыякавасьцю. Мясцовы мітрапаліт пісаў у Сінод: «Борисоглебская церковь на Коложе не отличается никакими ни архитектурными, ни артистическими особенностями и не заслуживает таких больших издержек, какие требуются на ее исправление...» Сінод, аднак, з такой высновай не пагадзіўся. Але пакуль вырашаліся пытаньні аб адбудове царквы, яна працягвала разбурацца. Пазьней у алтарнай частцы разбуранага храма была зроблена часовая капліца, дзе набажэнствы адпраўляліся рэдка й толькі ўлетку. Напрыканцы XIX стагоддзя быў умацаваны бераг і на месцы сьцяны, што калісьці абвалілася, была ўзьведзена драўляная.

У 1904 годзе архэолаг П. Пакрышкін пасьля правядзеньня натурных дасьледваньняў склаў праэкт рэстаўрацыі царквы. У 1920-1921 гадах была ажыцьцёўлена прафілактычная кансэрвацыя будынка. У 1934 годзе ў Горадні быў створаны спэцыяльны Камітэт аднаўленьня Барысаглебскай царквы, былі праведзены гэалагічныя дасьледваньні грунта, умацаваны падмурак. Праз пятнаццаць гадоў храм як помнік архітэктуры быў перададзены Гарадзенскаму гісторыка-архэалагічнаму музэю. У 1977 годзе Каложская царква стала філіяй Рэспубліканскага музэя атэізму і гісторыі рэлігіі. У 70-80-я гады на Каложы былі праведзены новыя гісторыка-архэалагічныя дасьледваньні П. Рапапортам і А. Трусавым і рэстаўрацыйныя работы, аўтарам праэкта якіх быў В. Сьлюнчанка. Быў перакрыты дах, зроблена адмостка, расчышчаны ад пазьнейшых слаёў атынкоўкі сьцены, адноўлены нішы, адкрыты падмуркі зруйнаваных падкупальных слупоў, на якія абапіраліся хоры, праведзена кансэрвацыя адкрытых фрагмэнтаў фрэсак.

Чатыры гады таму храм сьвятых Барыса й Глеба быў вернуты Праваслаўнай царкве, перад якой паўстала цяжкая праблема ня толькі заканчэньня рэстаўрацыйных работ, але й стварэньня адпаведнага гэтаму храму інтэр´ера. Сёньня Каложская цаква ў небясьпецы: фармуецца новы апоўзень стромкага берага Нёмана. У мэтах захаваньня Барысаглебскай царквы, якая зьяўляецца нацыянальным гонарам Беларускай дзяржавы, выканаўчы камітэт Гарадзенскага гарадзкога Савета народных дэпутатаў стварыў фонд аднаўленьня храма і адкрыў рахунак у Гарадзенскай філіі банка «Прыор-Захад» № 701402 код 718 МФО 152101.

Высакародная мэта аднаўленьня храма-помніка — справа ня толькі праваслаўных вернікаў, але і ўсёй чалаве ай супольнасьці і дзяржавы. Толькі аб´яднаўшы нашыя сілы, мы можам уратаваць гэтае ўнікальнае стварэньне нашых продкаў.

Браты й сёстры! Уратуем разам тое, што належыць усім, мінуўшчыне і прышласьці!

**Ад імя праўленьня фонду**
**Архіепіскап Гарадзенскі і Ваўкавыскі Валяньцін,**
**народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Алег Трусаў,**
**прафэсар Сяргей Габрусевіч,**
**намесьнік старшыні Гарадзенскага гарвыканкама Алесь Мілінкевіч,**
**дырэктар Гарадзенскага дзяржаўнага музэя гіторыі рэлігіі Людміла Карнілава.**

# Як вартаўнік з дырэктарам канторы пасварыліся

Жыў-быў Андрэй Браніслававіч. Больш за ўсё на сьвеце любіў ён свабоду, і таму працаваў вартаўніком у адным невялікім, але дзяржаўным прадпрыемстве, хоць і меў няскончаную вышэйшую адукацыю. Але паміж грашыма і свабодай выбіраў заўсёды апошняе. Уся ягоная праца складалася з таго, каб сядзець каля тэлефона ў канторы ды чытаць кніжкі, да якіх ён быў вялікі аматар. А дырэктарам прадпрыемства зьяўляўся Уладзімір Казіміравіч — стары камуніст брэжнеўскай гвардыі, даволі кансэрватыўная асоба, тыповы прадстаўнік камандна-адміністрацыйнай сістэмы. Часам дырэктар прыходзіў у контору, і тады распачыналіся «навукова»-палітычныя дыспуты, дзе і выяўляўся бясспрэчны антаганізм меркаваньняў дырэктара й вартаўніка. Уладзімір Казіміравіч хваліў старую добрую эпоху, калі людзі пілі й працавалі, мелі каўбасу й танныя аўтамібілі, і на чым сьвет лаяў дэмакратаў, БНФ і Зянона Пазьняка. Андрэй Браніслававіч узгадваў камуністычна арыентаванаму дырэктару, што кампартыя ў гады масавага гэнацыду зьнішчыла дзесяткі мільёнаў бязьвінных людзей, і называў КПСС ня інакш, як фашысцкай бандай.

Але вось распачалася ў краіне «прыхватызацыя». Начальнікі ды бюракраты ўсіх рангаў пачалі цягнуць да сябе народную маёмасьць. Не застаўся збоку ад гэтага грабежніцтва і Уладзімір Казіміравіч. Увосень 1991 года ён «прыхватызаваў» кантору падведамаснага яму прадпрыемства з вялікім пляцам, складамі ды іншымі падсобнымі памяшканьнямі. І ўсяго за 1.200 (адну тысячу дзьвесьце) рублёў. Амаль задарма. А дзяржаве прыйшлося будаваць для прадпрыемства новую кантору, і абыйшлося гэта будаўніцтва не ў адзін дзесятак тысячаў рублёў. На значную суму абабраў дзяржаву гэты прыхватызатар. Але ніхто й ня пікнуў ні з падначаленых, ні з вяскоўцаў. Забраў кантору сабе — ну й добра.

Уладзімір Казіміравіч жыў побач з канторай, і заходзіў туды ня толькі дзеля дыспуту з Андрэем Браніслававічам. Ён трымаў добрую гаспадарку, і часам прасіў вартаўніка дапамагчы — закінуць на гарышча сена, пасячы дроваў, разгрузіць машыну з саломай і г. д. Андрэй Браніслававіч ніколі не адмаўляўся, бо пасьля гэтай наёмнай працы дырэктар ставіў на стол пляшку самагону, частаваў памочніка, перакульваў сам чарачку-другую, і антаганістычныя дыскусіі пачыналіся з новым імпэтам.

Пасьля адной такой дапамогі дырэктар запрасіў, як заўсёды, вартаўніка за стол і, выпіўшы моцнага народнага напою, пачаў павучаць, як трэба жыць: маўляў, ня варта змагацца за нейкія эфэмэрныя ідэалы, трэба быць хітрым, бо хітрае цялятка дзьве маткі сьсе, а гордае — ні адной.

— Вось-вось, менавіта цялятка,— пагадзіўся Андрэй Браніслававіч, закусваючы дарагой каўбасой.— Правільна сказаў Гегель: «Хітрасьць — гэта розум жывёліны».

— Дык ты мяне жывёлінай называеш? — запытаў абражаны дырэктар.

Андрэй Браніслававіч не любіў, калі яму чыталі мараль і вучылі, як трэба жыць. Аднак на цьвярозую галаву ён сьціпла маўчаў, а вось пад чаркай ягоны язык рабіўся вельмі гострым.

— Дык табе да жывёліны далёка,— завёўся вартаўнік,— жывёлы ня ўмеюць красьці, хоць і хітрыя, а ты ў нашай беларускай дзяржаве стырыў каля сотні тысяч рублёў.

— Што ты мелеш? — грукнуў па стале кулаком дырэктар, аж шклянкі падскочылі.

— Я не Мележ,— адказаў Андрэй Браніслававіч.— А вось ты — самы звычайны прахвост, купіў памяшканьне канторы за тысячу з нечым, а дзяржава павінна цяпер будаваць новую кантору.

— Ды я цябе з работы выганю,— загуў Уладзімір Казіміравіч.

— А гэтыя твае словы даказваюць, што ты ня толькі прахвост, а яшчэ й капэзэсаўскі бюракрат, бо крытыкі ня любіш,— Андрэй Браніслававіч падняўся з-за стала.— Ты мяне не выганіш, бо я сам ад цябе пайду.

З гэтымі словамі вартаўнік выцягнуў з кішэні ключы ад канторы й кінуў пад ногі дырэктару.

— Пільнуй сваё дабро сам, злодзей!

І грукнуўшы што сілы дзьвярыма, выйшаў з хаты. Вось да чаго даводзіць палітычная палеміка, калі яна з абстрактных тэзаў і аргумэнтаў пераходзіць на канкрэтныя прыклады.

Так і пасварыліся Андрэй Браніслававіч і Уладзімір Казіміравіч, два антаганісты, якія імкнуліся жыць мірна.

**Б. МОГАЛЬ.**



**Рыштаваньні. Фатаграфаў А. У.**

## Ашуканцы

Незвычайныя памагатыя зьявіліся ў зборшчыкаў сродкаў на будову ў Пінску праваслаўнага Сьвята-Хведарскага кафэдральнага сабору. Маладыя людзі ў вопратцы манахаў ужо працяглы час ходзяць па кватэрах пінчукоў і прапануюць набыць будыйскую літаратуру, ахвяраваць сродкі на будоўлю. Многія даверлівыя жыхары ахвотна кладуць грошы ў скарбонку, якую носяць з сабой гэтыя «махляры-манахі», бо, як вядома, будызм і праваслаўе ня маюць нічога агульнага.

